№ 126 (248)

Пятніца, 25 ліпеня 1997 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах

Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

Выдавец — ТАА "Народная воля"

Кошт: у кіёсках і крамах — 2000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб Колас**



**Сонца**

| | Усход | Захад |
|---|---|---|
| Віцебск | 4.54 | 21.17 |
| Магілёў | 4.59 | 21.09 |
| Гомель | 5.04 | 21.00 |
| Мінск | 5.10 | 21.20 |
| Гродна | 5.26 | 21.34 |
| Брэст | 5.34 | 21.28 |

*Апошняя квадра 28 ліпеня.*



Незалежная экспертыза

*Уладзімір КУЛАЖАНКА,*
*доктар эканамічных навук, прафесар*

## Чорная паласа

### настала як у непасрэднай грашовай палітыцы, так і ў пераадоленні бюджэтнага дэфіцыту

Так званыя "новыя" эканамісты ўрада Рэспублікі Беларусь спрабуюць аздаравіць эканамічны стан краіны шляхам псеўданавуковых макраэканамічных рычагоў, якія з-за памылковасці і аднабаковасці падыходаў не толькі не прыносяць жадаемага плёну, а шкодзяць справе. Так, напачатку чэрвеня Нацыянальны банк з волі ўрада, імкнучыся прыцягнуць грашовыя сродкі насельніцтва для інвестыцый і ўскосна скараціць колькасць грошай, што знаходзяцца ў абарачэнні, устанавіў новыя павышаныя максімальныя працэнтныя стаўкі па тэрміновых укладах і дэпазітах насельніцтва ў дзяржаўных і камерцыйных банках да 50% гадавых у беларускіх рублях і 12% у замежнай валюце. Дырэктыву Нацбанка камерцыйныя банкі ўспрынялі, мякка кажучы, без энтузіязму і не спяшаліся ўводзіць абвешчаную норму. Але ці можа прыцягнуць народныя грошы ў банкаўскую сістэму прынятая норма? Безумоўна, не. Тая частка насельніцтва, якая мае невялікія зберажэнні, не можа не ўлічваць інфляцыю. Менавіта тое, што за студзень — май (па даных на пачатак чэрвеня) рэштка народных укладаў павялічылася на 22,5%, а інфляцыя, па афіцыйных даных, — на 35,2%. Атрымалася, што ўкладчыкі не зберaглі, а страцілі. Інфляцыя набірае абароты, а змаганне-бойка за ўраджай яшчэ наперадзе, і зноў спатрэбяцца эмісійныя крэдыты на трыльёны рублёў. Таму трымальнікі рублёў будуць шукаць для іх іншы ўжытак.

У чым жа тады справа? Пэўна, у тым, што на мікраўзроўні, на ўзроўні прадпрыемстваў, можна сказаць, не праводзіцца ніякіх зменаў: ні прыватызацыі, ні інавацый, ні структурнай перабудовы рэформаў — ну, ніякага прагрэсу няма.

Па той жа прычыне апошнім часам не дае станоўчых вынікаў і такая макраэканамічная мера, як пакрыццё бюджэту за кошт частага размяшчэння ДКА (дзяржаўных кароткатэрміновых аблігацый). Калі ў пачатку мая Міністэрства фінансаў зрабіла 57-ы выпуск ДКА на суму 250 мільёнаў рублёў, то ва ўмовах абвешчанага росту вытворчасці ў першым квартале аб'ём попыту на дзяржаўныя аблігацыі склаў 391,1 мільярда рублёў, а даходнасць ДКА для інвестараў — болей за 40%.

Аднак спад прамысловай вытворчасці ў маі, рост інфляцыі і неэфектыўнасць барацьбы з ёю толькі на макраўзроўні, павелічэнне аб'ёму нерэалізаваных тавараў, невяртанне крэдытаў (памеры толькі пратэрмінаваных дасягаюць зараз звыш 227 трыльёнаў рублёў) прывялі да таго, што два апошнія выпускі ДКА проста правалены, што будзе мець негатыўныя наступствы. Што гэта за правалы, відаць з наступных фактаў і лічбаў. Так, 17 чэрвеня Міністэрства фінансаў правяло 60-ы выпуск ДКА аб'ёмам 350 мільярдаў рублёў. Аднак заявак з боку камерцыйных банкаў на набыццё дзяржаўных аблігацый паступіла крыху болей як на палавіну выпуску — усяго на 192 мільярды рублёў.

Што рабіць, як ратаваць сітуацыю, дзе ўзяць грошы на пагашэнне 51-га выпуску ДКА, тэрмін якога настаў 26 чэрвеня? А пагасіць трэба было немалую суму — 480 мільярдаў рублёў, інакш давер да ДКА мог знікнуць зусім. І тады Міністэрства фінансаў прымае рашэнне ажыццявіць чарговы, 61-ы, выпуск ДКА праз які тыдзень — 25 чэрвеня і на вялікую суму — 800 мільярдаў рублёў. Але і гэты выпуск ДКА карыстаўся яшчэ больш нізкім попытам. Было пададзена заявак толькі на 282 мільярды рублёў. За мінусам прыбытку на аблігацыі ў дзяржаўны бюджэт паступіла толькі 200 мільярдаў рублёў. Тады Міністэрства фінансаў звярнулася да Нацбанка, каб ён прыняў удзел у даразмяшчэнні ДКА 61 і прыцягнуў да гэтай пільнай дзяржаўнай справы камерцыйныя і дзяржаўныя банкі. Даразмяшчэнне адбылося. Апроч Нацбанка ў ім прынялі ўдзел Белкамбанк, Беларусбанк, Белзнешэканомбанк і Абсалютбанк. Але размясціць поўнасцю выпуск аблігацый не ўдалося. Дзірка ў бюджэце не закрытая. Дэфіцыт бюджэту ў разліку на месяц складае 610 мільярдаў рублёў. А неўзабаве пачнецца чарговая бойка за ўраджай і спатрэбяцца вялікія грошы.

Як бачым, як у непасрэднай грашовай палітыцы, так і ў пераадоленні бюджэтнага дэфіцыту настала чорная паласа.

Не лепшая сітуацыя і ў валютнай палітыцы. Летась так званыя "новыя" эканамісты ўрада праводзілі такую адміністрацыйную палітыку, скіраваную нібы на ўтаймаванне інфляцыі, што не дала краіне ні замежнай валюты, ні цвёрдага беларускага рубля. Быў падарваны экспарт, а цэны пад канец мінулага і ў першыя месяцы гэтага года сталі расці, як на дрожджах. Пачаліся ліхаманкавыя пошукі папаўнення пустой дзяржаўнай валютнай касы. Былі найперш уведзены абмежаванні на куплю долараў у абменных пунктах з 500 долараў у адны рукі да двухсот. Маўляў, не будзе разбазарвацца валюта, што ёсць у банках. Ды і з боку немаёмаснай большасці насельніцтва такая мера выглядае як сацыяльная, бо скіравана супраць заможных. Але на справе створаны праблемы для летніх паездак грамадзянаў да сваякоў у краіны СНД і далёкае замежжа з-за адсутнасці вольнай канвертаванасці рубля. Апроч гэтага, абмежаванне ўдарыла па чаўнаках (тавар прывёз, прадаў, атрымаў рублі, а абмяняць іх на долары магчымасці няма наогул, бо большасць абменных пунктаў валюты не прадаюць, а толькі купляюць. Зноў ехаць па тавар немагчыма). З боку люмпенізаванай часткі народа гэта выглядае добра, а з боку дзяржавы — не, бо чаўнакі прывозяць у краіну як тавары, так і валюту. Новыя эканамісты ўрада падсякаюць надзейную крыніцу паступленняў у краіну валюты, вядома, не жадаючы гэтага. Але што зробіш — такі ўзровень прадбачлівасці і навуковасці сённяшняй эканамічнай палітыкі ўрада.

Не дае жаданых вынікаў рашэнне Нацбанка 30% купленай камерцыйнымі банкамі валюты прадаваць Нацбанку. Па сутнасці, няма чаго прадаваць. У абменных пунктах стаяць невялікія чэргі, бо мала надзеі, каб купіць валюту, а не прадаць. Не толькі вопытныя камерсанты, але і простыя людзі зразумелі, што, каб зберагчыся ад пражэрлівай інфляцыі, трэба набываць і назапашваць долары, а ненадзейныя рублі збываць. Толькі як купіць валюту? У абменных пунктах не прадаюць альбо гэтыя пункты зачынены наогул па "тэхнічных прычынах". На дапамогу прыходзяць вулічныя мянялы, у якіх заўсёды ёсць долары. Нягледзячы на ўсялякія забароны і штрафы, яны нікуды не зніклі і някепска пачуваюць сябе ў сітуацыі, штучна створанай урадам.

У валютнай палітыцы ў адносінах да грамадзянаў урад дзейнічае нібы па прынцыпу: са свету па нітцы — голаму сарочка. Распрацаваны вытанчаныя прыёмы па адабранню грошай у грамадзян. Каб з'ездзіць за мяжу і купіць, напрыклад, падношаны аўтамабіль, бо новы не па кішэні, грамадзянін павінен прадставіць мытнай службе даведкі банкаў на купленыя долары, прычым на кожныя 200 долараў паасобку, а за кожную даведку трэба заплаціць 100 тысяч рублёў. Пры куплі аўтамабіля набіраецца вялікая сума фактычна падатку.

Валютныя стасункі дзяржавы да прадпрыемстваў яшчэ болей заганныя. Па-першае, дзейнічаюць два валютныя курсы долара: біржавы і камерцыйны ды яшчэ ценявы. А па-другое, на саміх біржах як было, так і ёсць вызначэнне прыярытэтных пакупнікоў валюты. Біржы ў гэтых умовах ператвараюцца ў сацыялістычныя размеркавальнікі. Зразумела, такая форма валютнага рэгулявання можа скараціць імпарт, але яна не ў стане павялічыць экспарт, менавіта ад якога залежыць паступленне валюты дзяржаве.

Голад на валюту ў дзяржаве вышэйшыя чыноўнікі спрабуюць вырашыць няўдала і непрафесійна. Таму яны часам ужываюць і сілавыя спосабы. Так, як паведамляла адна з газет, вясной, калі ўзніклі ў горадзе Мінску цяжкасці з хлебам, кіраўнікі прадпрыемстваў горада сабраліся ў мэрыі і настойліва папрасілі (вядома так, як умеюць "вертыкальшчыкі") выдзеліць валюту на закупкі для горада хлеба.

Як бачым, валютна-грашовае рэгуляванне эканомікі праз макраэканамічныя адміністрацыйныя формы не дае жаданага плёну. Толькі змены ў самой вытворчасці, знясце ўсялякіх абмежаванняў з прадпрымальніцкай дзейнасці могуць аздаравіць эканоміку. Але на такія меры адміністрацыя пакуль не ідзе.



Стоп-кадр



Аркадзь Фёдаравіч Фралоў, Павел Еўстафавіч Цярэшчанка і Генадзь Нікіценка — розныя па ўзросту людзі, але аб'ядноўвае іх шматгадовая праца на гомельскім АТ "Гомельбудматэрыялы". Лёс звёў іх разам многа гадоў таму на тады яшчэ камбінаце будматэрыялаў. Утраіх былі некалі і прафсаюзнымі лідэрамі калектыву. А Генадзь Нікіценка да гэтага часу з'яўляецца старшынёй камітэта прадпрыемства.

Не забываюцца ў прафкоме аб ветэранах вытворчасці і вайны — яны частыя госці на прадпрыемстве. Кіраўніцтва "Гомельбудматэрыялаў" знаходзіць магчымасць аказваць дапамогу ветэранам.

**На здымку:** *ветэраны Аркадзь Фёдаравіч Фралоў, Павел Еўстафавіч Цярэшчанка і старшыня прафсаюзнага камітэта АТ "Гомельбудматэрыялы" Генадзь Нікіценка (у цэнтры).*

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БелТА.**

## ЗВАРОТ
### да беларускага народа

Паважаныя суайчыннікі!

27 ліпеня 1990 года Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь 12-га склікання прыняў Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі. Дзяржаўны суверэнітэт сцвярджаўся ў імя вышэйшай мэты — свабоднага развіцця і дабрабыту, годнага жыцця кожнага грамадзяніна на аснове забеспячэння правоў асобы ў адпаведнасці з Канстытуцыяй і міжнароднымі абавязацельствамі.

У адпаведнасці з Канстытуцыяй, Рэспубліка Беларусь — унітарная дэмакратычная прававая дзяржава, якая валодае вяршэнствам і паўнатой улады на сваёй тэрыторыі, самастойна ажыццяўляе ўнутраную і знешнюю палітыку.

На працягу стагоддзяў беларусы заўсёды імкнуліся да незалежнасці. Першым дзяржаўным утварэннем на тэрыторыі ўсходнеславянскіх плямёнаў было Полацкае княства, якое ўзнікла ў канцы першага тысячагоддзя і захоўвала сваю незалежнасць на працягу стагоддзяў. Вядомым у гісторыі было і Тураўска-Пінскае княства.

Літва, княства Наваградскае, княства Літоўскае і Наваградскае, Вялікае княства Літоўскае і Рускае, Жамойцкае і іншых зямель — пад такімі назвамі была вядома ў гісторыі наша краіна, якая шукала шляхі мірнага суіснавання ды супрацоўніцтва розных народаў і царкоўна-рэлігійных сістэм, ва ўмовах сярэднявечча стварыла унікальны ўзор палітычнага і грамадскага ладу. Але выгаднае геапалітычнае становішча Беларусі, якое прываблівала яе суседзяў, прыводзіла да таго, што Беларусь была "разменнай манетай" у імперскіх амбіцыях суседніх дзяржаў, якія змагаліся паміж сабой за валоданне яе тэрыторыяй.

Новы этап набыцця Беларуссю сваёй незалежнасці адносіцца да пачатку XX стагоддзя, калі 25 сакавіка 1918 года Рада БНР зрабіла спробу адрадзіць беларускую дзяржаўнасць, якая ў тагачасных складаных унутраных і знешніх умовах так і не была рэалізавана. Абвяшчэнне незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі аказала ўплыў на развіццё нацыянальнай самасвядомасці.

Тагачасная ўлада перагледзела сваю палітыку ў адносінах да Беларусі, вынікам чаго стала ўтварэнне 1 студзеня 1919 года Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, якая юрыдычна абвяшчалася незалежнай, суверэннай дзяржавай. На працягу першых гадоў яе існавання было шмат зроблена для развіцця дзяржаўнасці Беларусі, яе мовы і культуры, вырашэння сацыяльных праблем. З адсталай аграрнай ускраіны Расійскай імперыі за гэтыя гады яна ператварылася ў магутную аграрна-індустрыяльную рэспубліку. У той жа час яе нацыянальная самабытнасць паступова растварылася ў бяскрайніх абшарах Савецкага Саюза.

27 ліпеня 1990 года ў чарговы раз была абвешчана незалежнасць Беларусі, і сёння ў чарговы раз незалежнасць Беларусі апынулася пад пагрозай.

Прэзідэнт у выніку падмены паняццяў і фальсіфікацыі рэферэндуму дзеля задавальнення сваіх амбіцый абвясціў "дзяржаўнае свята" — Дзень Рэспублікі. Прычым ім стаў дзень вызвалення Мінска ад фашысцкіх захопнікаў — 3 ліпеня. Такім чынам, зніклі дзве даты: Дзень незалежнасці, які перанесены на 3 ліпеня, і Дзень вызвалення Беларусі ад "чумы XX стагоддзя". Апошнім прэзідэнт і яго паплечнікі нанеслі вялікую крыўду франтавікам — вызваліцелям рэспублікі і яе сталіцы, для якіх гэты дзень — святы.

Знішчэнне Дня незалежнасці — гэта толькі адзін са шматлікіх крокаў да ліквідацыі незалежнасці і суверэнітэту Рэспублікі Беларусь як дзяржавы, аб чым сведчаць практычныя дзеянні прэзідэнта.

Але ў жыцці беларусаў быў і застаецца дзень 27 ліпеня 1990 года! Гэта старонка ў нашай гісторыі. Калі мы хочам "людзьмі звацца" і хочам, каб нас паважалі іншыя, мы павінны паважаць сябе, сваю гісторыю.

Таму я заклікаю суайчыннікаў: дзе б вы ні былі 27 ліпеня, памятайце, што гэты дзень — наша нацыянальнае свята. Адзначаць яго ці не — справа асабістая, але памятаць пра яго і адстойваць суверэнітэт Беларусі як свайго роднага дома павінен кожны яе грамадзянін.

Няхай жывуць вольная незалежная Беларусь і яе народ!

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 13-склікання С.ШАРЭЦКІ.**

## УКАЗ
### ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
#### нумар 402
### Аб назначэнні М.П.Корбута Міністрам фінансаў Рэспублікі Беларусь

1. Назначыць Корбута Мікалая Пятровіча Міністрам фінансаў Рэспублікі Беларусь, вызваліўшы яго ад пасады першага намесніка Старшыні Праўлення Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь.

2. Прызнаць страціўшым сілу Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 14 студзеня 1997 г. нумар 51 "Аб назначэнні М.П.Румаса выконваючым абавязкі Міністра фінансаў Рэспублікі Беларусь" (Збор дэкрэтаў, указаў Прэзідэнта і пастаноў Урада Рэспублікі Беларусь, 1997 г., нумар 2, арт.56).

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

23 ліпеня 1997 г.
г.Мінск

* * *

Корбут М.П. нарадзіўся ў 1948 годзе ў Слуцкім раёне Мінскай вобласці. Па нацыянальнасці беларус. Адукацыя вышэйшая. У 1977 годзе скончыў Беларускі дзяржаўны інстытут народнай гаспадаркі імя В.У.Куйбышава. Спецыяльнасць па адукацыі — фінансы і крэдыт.

Працоўную дзейнасць пачаў у 1966 годзе эканамістам дзяржданодаў Любанскага райфінаддзела.

З 1968 па 1969 год працаваў старшым эканамістам дзяржданодаў Бярэзінскага райфінаддзела, затым Мінскага аблфінаддзела.

З 1970 па 1972 год служыў ва Узброеных Сілах.

З 1972 па 1980 год — начальнік аддзела Мінскага аблфінаддзела.

З 1980 па 1992 год працаваў на розных пасадах Міністэрства фінансаў Беларусі, быў намеснікам міністра.

З 1992 па 1996 год — намеснік старшыні Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь.

З 1996 года — першы намеснік Старшыні Праўлення Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь.

### Самы меткі стралок — на Верхнядзвінскай мытні

У рэспубліканскіх спаборніцтвах па стральбе з пісталета сістэмы Макарава першае месца заваяваў супрацоўнік Верхнядзвінскай мытні Дзмітрый Грыбоўскі.

Спаборніцтвы праведзены Дзяржаўным мытным камітэтам Рэспублікі Беларусь.

**Вольга СІДАРОВІЧ.**

Крымінал

### Самагубства — цяжкі грэх

Самагубства ў хрысціян лічыцца цяжкім грахом. Вядома, не ад добрага жыцця накладаюць на сябе рукі людзі, хоць прычыны і акалічнасці гэтых трагедый самыя розныя.

Як паведаміў карэспандэнту БелТА супрацоўнік прэс-службы МУС Васіль Курловіч, кожныя суткі ў рэспубліцы ў сярэднім рэгіструецца 9 такіх выпадкаў. Так, 19 ліпеня каля вёскі Давыдаўка Гомельскага раёна быў знойдзены абгарэлы труп невядомага мужчыны. У выніку праведзенага расследавання ўстаноўлена асоба загінуўшага. Гэта вадзіцель гомельскага тралейбуса, які звёў рахункі з жыццём шляхам самаспалення. Крыху раней быў выпадак, калі ў выніку падпалу сваёй кватэры сярод ночы загінулі сам гаспадар, яго жонка, цяжкія апёкі атрымаў сын.

Страшная трагедыя адбылася ў Барысаве. Тут у рэчцы Сха былі знойдзены без яўных прымет гвалтоўнай смерці целы дзяўчынак — другакласніцы і яе чатырохгадовай сястрычкі. Мяркуецца, што смерць іх наступіла ад утаплення. Крыху пазней, у 20.00, недалёка ад гэтага месца знайшлі іх маці, повара адной з воінскіх часцей мясцовага гарнізона, якая павесілася на дрэве. Са слоў яе былога мужа, на працягу апошніх некалькіх месяцаў у жанчыны назіраліся прыметы псіхічнага расстройства.

**Сяргей ЦІВАНАЎ, БелТА.**

Откликнитесь!

### Достроим памятник жертвам политических репрессий

Бобруйская организация жертв политических репрессий проводит большую работу по восстановлению справедливости, гражданских прав жертв тоталитарного режима. Наша организация строит в г.Бобруйске памятник жертвам политических репрессий. Просим всех, кто пострадал сам, кто сочувствует прошедшим ад сталинских репрессий, кто не равнодушен к страданию других, оказать посильную помощь в сборе средств на завершение работ по возведению памятника.

Наш р/сч. № 3015205540014 в Бобруйском отделении Белбизнесбанка, код 721 (с пометкой "На строительство памятника").

**Телефон для связи (02251)6-89-95.**

**А.БАКАЧ, председатель БО БАЖПР.**

Стала вядома

### На стажыроўку ў ААН

Кіраўнік Беларускай лігі правоў чалавека Яўген Новікаў запрошаны на стажыроўку ў структуры ААН. Ён будзе вывучаць дзейнасць Камітэта гэтай арганізацыі па правах чалавека, возьме ўдзел у сесіі названага камітэта, сустрэнецца з высокапастаўленымі асобамі структур ААН. А галоўнае — азнаёміцца з практыкай работы міжнародных механізмаў абароны правоў чалавека. Мяркуецца, што стажыроўка кіраўніка Беларускай лігі правоў чалавека дапаможа лепш выкарыстоўваць механізмы і структуры ААН для азнаямлення сусветнай грамадскасці з парушэннямі заканадаўства і міжнародных норм у Беларусі.

**Сяргей ВІКТАРАЎ.**

Новае ў жыцці

### А вы яшчэ не думалі пра кандамініум?

Расце колькасць таварыстваў па сумеснаму домаўладанню. У іх аб'ядноўваюцца жыхары дамоў, каб разам клапаціцца аб стане будынкаў, іх лепшым абслугоўванні. Адбыліся сходы жыхароў шэрагу дамоў па вуліцах Леніна, Лынькова, Серафімовіча і Кальцова ў Мінску, у горадзе Бярозаўка Лідскага раёна па арганізацыі падобных асацыяцый. Створаны неабходныя ўмовы для іх працы ў Кобрыне, Баранавічах, Ваўкавыску. Уся работа па стварэнню названых таварыстваў, ці кандамініумаў, як іх называюць на Захадзе, вядзецца з дапамогай спецыялістаў Міжнароднай фінансавай карпарацыі. Кансультацыі можна атрымаць па тэлефонах: у Мінску — 228-17-79, 228-18-38, Брэсце — 23-56-86, Баранавічах — 2-34-99, Гродна — 72-30-74.

**Яўген ТАЎГЕНЬ.**

SOS!

### Дапамажыце арганізацыі, якая бароніць усё беларускае

Паважаныя суайчыннікі, а таксама грамадзяне іншых краін, каму неабыякавы лёс беларускай мовы і культуры!

Наша краіна перажывае нялёгкі час. Нацыянальнае адраджэнне, якое шырока разгарнулася ў канцы 80-х гадоў і ў пачатку 90-х, сустрэла моцнае супраціўленне з боку антыбеларускіх сілаў. Масава зачыняюцца беларускія школы і класы, ліквідуюцца беларускамоўныя выданні і выдавецтвы. Былі выпадкі, калі людзей на вуліцах арыштоўвалі за тое, што яны размаўлялі па-беларуску.

У гэтых умовах Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны з'яўляецца адзінай грамадскай некамерцыйнай, непалітычнай арганізацыяй, якая бароніць усё беларускае.

Цяпер наша арганізацыя трапіла ў выключна цяжкае матэрыяльнае становішча. Спынена фінансаванне газеты "Наша слова", арэндная плата за памяшканне Таварыства павялічана ў 10 разоў, доўгі час быў адключаны тэлефон. Мы не можам знайсці сродкаў на выданне матэрыялаў навуковай канферэнцыі "Дыскрымінацыя беларускай мовы". Але ТБМ не здаецца. На апошнім, V, з'ездзе выбрана новае кіраўніцтва, якое шукае выйсце з гэтага становішча, што склалася не па віне арганізацыі.

Мы звяртаемся да Вас з просьбай аказаць Таварыству матэрыяльную падтрымку.

Загадзя ўдзячны ўсім прадпрыемствам, установам, арганізацыям, рухам і партыям, а таксама асобным грамадзянам, якія адгукнуцца на нашу просьбу.

Спісы ахвярадаўцаў па іх жаданні будуць надрукаваныя.

Наш разліковы рахунак 3015212330014, код 764 у Гардырэкцыі Белбізнесбанка г.Мінска, тэл. 233-25-11, адрас: 220005, г.Мінск, вул.Румянцава, 13, ТБМ.

**Сакратарыят Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны.**

*Анатолий ЛЕБЕДЬКО, депутат Верховного Совета 12-го и 13-го созывов, заместитель председателя Объединенной гражданской партии*

## Борьба за Кремль требует ключа для закручивания гаек рыночного социализма

Чтобы всецело отдаться борьбе за "ушанку Мономаха", А.Лукашенко надо как минимум иметь крепкий тыл. Однако создать за три года образцово-показательное хозяйство "Беларусь" властям оказалось не под силу. Более того: пропасть, от которой так настойчиво уводил президент, почему-то оказалась совсем рядом. Отползти успели только Иван Иванович Титенков и процента три населения страны.

Осень, судя по всему, не сулит спокойной жизни президенту. Как свидетельствует практика, авторитарная власть, власть, основанная не на силе закона, а на законе силы, — вещь дорогостоящая. Гипертрофированный аппарат надсмотра, контроля и принуждения, густой паутиной опутавший страну, имеет хороший аппетит на бюджетные средства. Борьба за президентский рейтинг, мероприятия-монстры, призванные символизировать непобедимость и величие белорусского кормчего, требуют огромных ресурсов.

Вместе с тем, ряд важнейших источников финансирования существующего режима либо ликвидированы, либо значительно обмельчали.

Во-первых, с введением в России государственной монополии на винно-водочную продукцию исчезли триллионные поступления в теневой бюджет от контрабанды горячительных напитков.

Во-вторых, по существу, завершена распродажа наследия Белорусского военного округа. Почти 400-миллионная сделка на поставку в Перу эскадрильи МИГ-29 С была последней серьезной финансовой инъекцией.

В-третьих, в условиях жесточайшей финансовой экономии, когда выплата задолженностей по пенсиям, зарплатам стала политической задачей номер один для российского правительства и средством политического выживания команды реформаторов, наивно надеяться на дешевые российские кредиты.

К тому же за три года в местном инкубаторе так и не вырастили ту курицу, которая способна нести золотые яйца. Нет серьезного, влиятельного бизнеса. Предпринимательство в своей основе застряло на уровне купи-продай. Не созданы конкурентоспособные предприятия, отрасли, могущие, подобно локомотиву, вытащить всю экономику. Решить эту задачу без внешних инвестиций невозможно. Но дурная репутация белорусских властей делает это нереальным. Круг замкнулся.

В поисках средств президент систематически "перетряхивает" предпринимателей. Государство быстро освоило технологию рэкета и поставило дело на конвейер. Налоговый пресс на субъекты хозяйствования усиливается. Появился новый вид платежей — штраф. Он никак не связан с таким понятием, как законопослушание. Периодически появляющийся "контролер" предлагает добровольно уплатить штрафные санкции ни за что. С государством-держимордой предпочитают не связываться и безропотно платят.

Сегодня количеством "выбитых" денег оценивается труд милиционера-гаишника, контролеров различных мастей и оттенков. Утром доводится план, вечером государственные рэкетиры должны сдать выручку в общак.

И все же денег катастрофически не хватает. В этих условиях следует ожидать усиления репрессивных мер со стороны властей. На первый план выходит задача предотвращения социального взрыва осенью этого года. Особое внимание — Минску. История свидетельствует — все революции (и октябрьские, и "бархатные") происходили в столицах.

Существуют два пути локализации и предотвращения социальных потрясений: а) за счет перераспределения денежных средств в пользу столицы. Что уже и происходит на практике. К примеру, рабочий МТЗ получает 3—4 миллиона рублей, его коллега, работающий в филиале минского тракторного в Сморгони, — 700 тысяч. Власти пытаются прикормить столичного пролетария за счет периферии. б) Второй путь — это набор превентивных, профилактических мер, призванных усилить психологическое воздействие, распространить зону воздействия чувства неуверенности, страха до разнорабочего и уборщицы.

Власть нервничает. Это подтверждает и общение Лукашенко с жителями Оршанщины. Риторика выступлений президента претерпела существенные изменения. Помнится, лейтмотивом всех встреч А.Г. с рабочими было "ни одного труженика за проходную, человек для нас превыше всего". Теперь президент открыто призывает почистить ряды пролетариата. И даже намеревается для этих целей принять соответствующий нормативный акт. Не сложно прогнозировать, что этот документ будет родным братом печально известного декрета №5, приведшего к волне политических репрессий в республике. Особенность нового декрета в том, что он будет носить ярко выраженный антирабочий характер. Конечно же, он будет упакован в привлекательную обертку "борьбы с разгильдяйством, наведения порядка и дисциплины". Но не сложно предсказать, кто окажется среди "злостных нарушителей дисциплины". Рабочие-активисты, люди по генетическому коду наделенные чувством собственного достоинства и лишенные комплекса неполноценности.

Под зажимание гаек рыночного социализма, а точнее — непросвещенного абсолютизма, попадут также негосударственные масс-медиа и, конечно же, представители Верховного Совета, оппозиционных партий, профсоюзов. Новым в осеннем наступлении А.Г. будет разве что перекладывание части ответственности на обитателей "белорусской Палаты". Купив их за бесценок на распродаже в ноябре прошлого года, А.Г. понимает, что дешевый товар не годится для многократного использования. Но не повесить на "депутатов" еще несколько "дохлых собак" было бы неправильным. Пусть примут закон, опираясь на который можно безапелляционно закрыть "Народную волю", "Свободные новости", "Свободу", "БДГ", "Белорусскую газету" и другие издания. Пусть проголосуют, чтобы вышедшего с протестом на улицу демонстранта можно было упрятать на два года за решетку. Когда все это будет возведено в ранг "закона", можно прикинуться этакой кроткой овечкой и спокойно кивать на стадо баранов, которых к этому времени пастух отгонит на бойню.

Власть спешит. А потому на август планируется внеочередная "сессия парламентариев", и юристы в Администрации президента строчат новые декреты, но не о воле, не о земле и не о хлебе насущном.

Осень приближается. В коридорах власти утверждают, что наступила стабилизация. В недрах народных масс полагают, что грядет "стабилизец". Видимо, по-своему правы и те, и другие. Из-за тонированных окон бронированного президентского "Мерседеса" жизнь, конечно же, смотрится несколько иначе, чем из переполненного дымящегося "Икаруса" в часы пик.

А ведь стабильность — это когда 2/3—3/4 населения страны живут в собственных добротных домах, на работу члены семьи ездят на хороших личных автомобилях и отдыхают граждане не на шести сотках, борясь за урожай свеклы и редиски, а в "звездных" отелях на берегу моря. Когда государство не играет в подкидного дурака с собственным народом.

И порядок — это когда милиционер на улице вызывает улыбку, а не приступ аллергии, когда он ловит преступников, а не гонется с дубинкой за добропорядочными горожанами. Когда в стране культивируются не сила, не жлобство и хамство, а интеллект, культура, взаимоуважение, когда разговаривают не терминологией военного времени, а языком диалога, компромисса, взаимоуступок.

И дисциплина — это когда получив зарплату, не хочется воровать, когда не возникает мысль засыпать в бетономешалку вместо цемента песок, когда по истечении месяца рассчитываются деньгами, а не кастрюлями и носками, когда высококвалифицированного рабочего не отправляют подметать проходную. Непросвещенный абсолютизм — самая дорогостоящая и самая разрушительная форма государственного устройства.

Народная Воля · 25 ЛІПЕНЯ 1997 г.

Стоп-кадр

## Не перавяліся сапраўдныя майстры на Беларусі!



Чалавека, старэйшага за Мікалая Максімавіча Шадурскага з хутара Судзіловічы Бярозаўскага раёна, у наваколлі, хутчэй за ўсё, няма. Яму 95 гадоў. Нягледзячы на свой узрост, ён, як і раней, прыгожы, рухавы, ахайны, а галоўнае — жыццярадасны. Доўгае яго жыццё не было лёгкім. Перажыў тры вайны, вырасціў трынаццаць дзяцей, дзевяць з якіх жывыя і здаровыя да гэтага часу, а ўжо ўнукаў, праўнукаў не пералічыць. А яшчэ ўсё жыццё Мікалай Максімавіч славіцца залатымі рукамі. Некалі будаваў млыны, цесляры́ў, майстраваў ветракі, мог адрамантаваць любы гадзіннік, зрабіць скрыпку і многае іншае. За якую б справу ні ўзяўся — усё ў яго атрымлівалася. Хоць гады і бяруць сваё, аднак часта можна ўбачыць, як Мікалай Максімавіч займаецца якой-небудзь справай па гаспадарцы.

**На здымку:** *Мікалай Максімавіч са скрыпкай, якую ён змайстраваў сам паўвека назад.*

**Фота Рамана КАБЯКА, БелТА.**

Крыўдна!

# Ураўнілаўка для баласту

*Баласт — тое, што залішне абцяжарвае, турбуе*

Чуў я не вельмі даўно выступленне па тэлевізару аднаго вядомага палітыка, які абараняў ідэю выгнання з работы пенсіянераў, назваўшы іх баластам. Стала крыўдна. Быў час, калі нас баластам не лічылі. Аддаючы сябе поўнасцю даручанай справе, мы атрымлівалі адпаведную зарплату, узнагароды. Цяпер мы — баласт і для ўрада, і для прэзідэнта. Вось некаторыя меркаванні на гэты конт.

Яшчэ ў 1995 годзе я прачытаў каментарый на тэму "У пенсійным забеспячэнні пануе ўраўнілаўка". У гэтым каментарыі паводле слоў міністра сацыяльнага забеспячэння Вольгі Даргель адзначалася, што міністэрства хоча, каб запрацаваў механізм індывідуальнага каэфіцыента, які выкарыстоўваецца пры вызначэнні велічыні пенсіі кожнага пенсіянера. Па словах міністра, пенсійнае забеспячэнне ў рэспубліцы скацілася да ўраўняльнай сістэмы.

Думалася, што новы парадак унясе нарэшце яснасць у гэтае пытанне. Ды не ўнёс. Неяк я прачытаў артыкул "Якімі будуць пенсіі ў новым годзе?", і мне стала зразумела, што максімальную пенсію атрымаюць пенсіянеры, у якіх індывідуальны каэфіцыент роўны 1,3. А як жа астатнія, у каго ён большы? А так — яны атрымаюць па таму ж каэфіцыенту 1,3. Такім чынам, для вялікай колькасці старых іх поўны заробак улічвацца не будзе. Чым жа яны, самыя працалюбівыя, самыя прыкладныя, самыя ўвішныя, самыя старанныя, "заслужылі" гэтакую "пашану"? Можа тым, што ад цяжкай працы ў многіх з іх пагорбіліся спіны, моцна баляць рукі, ногі, а іншыя і інвалідамі сталі? Ці ж можна так да іх ставіцца? Ну, няма грошай у дзяржавы, дык няхай бы як-небудзь па-іншаму адзначылі: "не піво — диво, а честь дорога".

Можа, іх такіх нямнога? Не, шмат. У калгасе імя Красіна пражывае 360 пенсіянераў (разам з былымі настаўнікамі Вялікаслівускай сярэдняй школы). З іх такіх, што маюць каэфіцыент, большы чым 1,3, каля 170 чалавек. Вось гэтыя 170 чалавек пры іншых роўных умовах атрымаюць аднолькава: 747900 рублёў — сучасны максімум.

Хто ж яны, што трапілі пад нож ураўнілаўкі? Белько Марыя Купрыянаўна (2,45. У дужках указаны індывідуальныя каэфіцыенты) — яшчэ і цяпер з вялікім сумленнем выконвае работу галоўнага бухгалтара калгаса імя Красіна. Бурак Сяргей Змітравіч (2,29) — увесь раён ганарыўся калгаснай фермай, калі ён і я яго жонка Лідзія Іванаўна (2,27) даглядалі ўдваіх больш за 500 галоў свіней. А колькі пылу накаўталіся за сваё жыццё трактарысты Козел Іван Аляксандравіч (2,04), Мурашкевіч Фёдар Макаравіч (2,47), Пышнік Міхаіл Андрэевіч (2,03), Русак Аляксандр Іванавіч (2,10), Русак Яўген Іванавіч (2,02), Самусевіч Іван Фёдаравіч (2,07), Славашэвіч Васіль Аляксандравіч (2,15)! Можа, жывёлаводам-жанчынам можна пазайздросціць за іх натруджаныя рукі? А іх жа такіх у гэтым спісе вельмі шмат: Качур Марыя Максімаўна (2,51), Качур Надзежда Міхайлаўна (2,74), Лысая Зінаіда Іванаўна (2,19), Макарэнка Ніна Майсееўна (2,7), Самусевіч Ніна Васільеўна (2,24), Тупік Вольга Мікалаеўна (2,26). Уявіце ж сабе, колькі такіх, што маюць высокі каэфіцыент.

**У залежнасці ад каэфіцыента, пры іншых роўных умовах, размер максімальнай пенсіі будзе наступным:**

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Каэфіцыент | 0,65 | 0,78 | 0,91 | 1,04 | 1,17 | 1,30—3,50 |
| Пенсія (у тыс. рублёў) | 544 | 612 | 666 | 707 | 734 | 748 |

Яскрава відаць, што ўраўнілаўка не ліквідавана, бо 707 і 748 адрозніваюцца ўсяго на 5 працэнтаў.

Дык можа, на гэтыя 748000 рублёў мы так рванём, што перавысім свае даходы на пенсію 1990 года? Давайце параўнаем. Будзем лічыць самую высокую тагачасную пенсію ў 132 рублі. Колькі і чаго можна было купіць тады і колькі і чаго можна купіць сёння за самую высокую пенсію простага чалавека?

### Ступень зніжэння жыццёвага ўзроўню пенсіянераў

| Расход (прадукты, паслугі) | Адзінкі вымярэння | 1990 | | 1997 | | Ступень зніжэння |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Цана, руб. | Магчымасць набыцця | Цана, руб. | Магчымасць набыцця | |
| Хлеб | кг | 0-20 | 660 | 5000 | 149 | 4,4 |
| Малако | л | 0-25 | 528 | 2500 | 300 | 1,7 |
| Ялавічына | кг | 1-90 | 69 | 50 000 | 15 | 4,6 |
| Свініна | кг | 1-80 | 70 | 65 000 | 11,5 | 6 |
| Куры | кг | 2-40 | 55 | 50 000 | 15 | 3,66 |
| Яйкі | дзесятак | 1-20 | 110 | 20 000 | 37 | 5,5 |
| Масла (смет.) | кг | 3-40 | 38,8 | 82 000 | 9 | 4,3 |
| Алей | л | 1-82 | 72,5 | 25 000 | 30 | 2,9 |
| Мука (пшан.) | кг | 0-46 | 286 | 12 000 | 62 | 4,6 |
| Цукар | кг | 0-84 | 157 | 11 700 | 63 | 2,4 |
| Яблыкі | кг | 2-00 | 66 | 18 000 | 41 | 1,5 |
| Праезд Слуцк — Мінск | | 1-78 | 74 | 35 000 | 21 | 3,5 |

Можна і далей прадоўжыць гэтую табліцу. Лічбы будуць несуцяшальнымі. Раней на пенсію можна было купіць два веласіпеды, а цяпер — адзін веласіпед за дзве пенсіі.

Відавочна, што былога матэрыяльнага ўзроўню "прадстаўнікі баласту" не дасягнуць — прыдзецца аддаць канцы, не дажыўшы да светлай будучыні. Таму маральна б падтрымаць нашага брата-баластоўца.

**Віль ІВАШКЕВІЧ, жыхар вёскі Вялікая Сліва Слуцкага раёна.**

**Ад рэдакцыі.** *З-за перагружанасці газеты матэрыяламі артыкул В.Івашкевіча мы друкуем, на жаль, з некаторым спазненнем, таму лічбы могуць быць крыху іншымі. Але факт застаецца фактам — несправядліва ставіцца дзяржава да пенсіянераў.*

Прошу!

## Но, по-моему, я мудрее многих взрослых, которые действительно очень похожи на наивных детей...

Здравствуй, уважаемая редакция!

Пишу вам потому, что вы, как никто другой, сможете понять мою горечь. Больно за свою страну, за свой народ. Некоторые (и даже очень многие) взрослые меня просто не понимают и считают ребенком. Но, по-моему, я мудрее многих взрослых, которые действительно очень похожи на наивных детей.

Я была бы очень благодарна, если бы вы напечатали басню "Мандат" Кандрата Крапивы, которая очень актуальна и в наше время. Вот ее текст:

### Мандат

*Ослу однажды выдали мандат.*
*По недоразуменью, говорят.*
*(Такое может быть порой и у людей.*
*О них мы потолкуем чуть поздней.)*
*А между тем от счастья у Осла*
*Аж кругом голова пошла.*
*И если был в ней хоть какой-то разум,*
*Весь выветрился разом.*
*Вдруг опьянел Осел, хоть был тверез.*
*Он так заважничал, такое вдруг понес,*
*Такой внезапно поднял шум и звон,*
*Такой нахальный принял тон,*
*Как будто выпил водки лишку.*
*А живность в нем узрела "шишку".*
*— Вот это ум! Вот это — голова! —*
*Не раз гремели похвалы слова.*
*Иной, усердствуя, чтоб вдруг не ошибиться,*
*Едва не целовал ослиные копытца.*
*А "голова" с мандатом грозным,*
*Почуяв силу наяву,*
*Стоит себе над яслями в хлеву,*
*Жует овес и портит воздух.*
*Четвероногие глядят — не наглядятся,*
*Чихнуть без разрешения боятся.*
*Один лишь песик бесшабашный Лыска,*
*Когда Осла увидел близко,*
*Давай брехать:*
*— Гав-гав-гу-у, гав-гав-гу-у,*
*Терпеть я дурня не могу...*
*Полаял, порычал — всего и дел,*
*Ведь Лыска тот на привязи сидел.*
*Увы, случается и с нашим братом*
*Такое (этот вариант не нов).*
*Ослу заменят голову мандатом,*
*И мы готовы слушаться ослов*
*Без лишних слов.*

**С уважением — Алла, ученица 10-го класса.**
*г.Слоним.*

Афіцыйна

### Інфляцыю бяруць пад кантроль

Праект Закона "Аб мерах па павышэнню выканаўчай дысцыпліны ў пытаннях фарміравання і прымянення цэн" разгледжаны на пасяджэнні Прэзідыума Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь. У адпаведнасці з дакументам на тэрыторыі краіны рост цэн на тавары (тарыфы на работы, паслугі) не павінен перавышаць сярэднямесячнага прагнознага ўзроўню інфляцыі. На ліпень ён устанаўліваецца ў памеры 2,45 працэнта, а ў наступныя месяцы да канца бягучага года — не больш за 2 працэнты ў месяц.

**БелТА.**

За кубачкам кавы з Марынай КОКТЫШ

*Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК:*

# "Паэзія застанецца да таго імгнення, пакуль прыгожая жанчына будзе цалаваць паэта..."



*З чаго пачынаюцца Паэты?*
*З першага пацалунку новых закаханых, якія нараджаюць свой цэлы сусвет. З апошніх промняў сонца, якое ўжо адмерала чарговы дзень. З незабыўных летуценняў пра палёт на ўласных крылах над гэтай зямлёй.*

***Дарэчы, а хто сказаў, што ў Паэта няма крылаў? Паэт Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК лічыць, што, пакуль жыве апошні рамантык, чалавецтва нельга назваць бяскрылым — аднесеным выключна ў свае "хлебныя" праблемы.***

**— Леанід Васільевіч, няўжо ў сённяшнія суперпразаічныя дні можна быць паэтам?**

— Нават не ведаю. Гэтаксама можна спытаць салаўя, ці цяжка яму раніцай спяваць, калі халодная раса, калі сонца не хоча падымацца і калі яго ніхто не слухае. Салавей пра гэта не думае.

**— Усё ж якую б прафесію Вы выбралі, калі б не сталі паэтам?**

— Паэт — гэта, вядома ж, не прафесія, а нейкае шчаслівае насланнё. І калі б гэтага не было, я, мусіць, і не жыў бы. Усё пачалося з неверагодна моцнага жадання агучыць па-свойму тыя словы, якія чуліся з самага дзяцінства. Яшчэ да школы. Родныя, беларускія словы, якія былі сімваламі харства і паэзіі. Яны перагукваліся і жылі вакол мяне. І таму ні пра якую іншую "прафесію" я не думаў.

**— І калі б была магчымасць пачаць усё з самага пачатку, Вы б ізноў зрабілі выбар на карысць паэзіі?**

— Упэўнены: пачалося б тое ж самае.

**— Леанід Васільевіч, як лічыце, на Беларусі сучасным паэтам аддаюць належнае?**

— Ні паэтам, ні артыстам, ні мастакам, дый наогул творчым таленавітым людзям не аддаюць таго, што яны заслугоўваюць. Яны раптоўна засталіся па-за межамі ўвагі дзяржавы. І дзякуй Богу...

**— Мабыць, менавіта з гэтай нагоды амаль уся наша творчая інтэлігенцыя лічыць сябе няшчаснай?**

— Я не лічу сябе нешчаслівым чалавекам. Для мяне шчасце — даволі небяспечнае паняцце, акіян з яго невымяральнай глыбінёй. І калі апынешся ў ім — абавязкова патонеш. Наогул, для мяне асабіста было б лепш, калі шчасце праходзіла дзе-небудзь на даляглядзе, а я назіраў бы за ім збоку. На дастаткова вялікай адлегласці. А калі яно як наркотык ці шалёная стыхія ў тваёй крыві, то ты абавязкова загінеш, як людзі гінуць ад перабольшанай дозы атруты...

**— Ведаю, што Ваш улюбёны жанр — эсэ, дзе пэўную сюжэтную атрыбутыку выконвае матыў падарожжа. Вы ніколі не марылі аб падарожжы па еўрапейскіх краінах свету?**

— Па еўрапейскіх краінах я, шчыра кажучы, ужо дастаткова навандраваўся. Цяпер мне не хочацца нікуды ездзіць. Я хачу вандраваць толькі па Мінску. Хачу вывучаць кожны дом, аднаўляць назвы старых вуліц, якія жывуць у маёй памяці. Хачу праз сваю ўяву надаць нашаму гораду крышачку еўрапейскасці. Таму пачаў пісаць новы раман "Украдзеная дуэль" — пра стомленасць ад Мінска.

**— А Вы не баіцеся стаміцца пісаць вершы?**

— Баюся, што вершы стомяцца ад маёй прысутнасці.

**— Чаму беларускія літаратары ніколі не будуць папулярнымі настолькі, наколькі яны гэтага заслугоўваюць?**

— Мусіць, яны самі вінаваты. Яшчэ Янка Брыль гаварыў: "Беларуская сціпласць... перахлёствае са станоўчага ў недахоп". На мой погляд, у нашым характары вельмі моцна развіта адчуванне натоўпу і абыякавасці да саміх сябе. Для нас лепш знаходзіцца сярод людзей, чым збоку. Беларускаму літаратару таксама не трэба баяцца "паказвацца" — выступаць. І чым больш ён будзе "збоку", тым лепш. Іншая справа — наша ментальнасць... Асаблівасць Беларусі, на маю думку, у тым, што гэта адзіная еўрапейская дзяржава, якая ўвойдзе ў XXI стагоддзе не толькі са светлымі, але й з цёмнымі бакамі свайго Адраджэння.

**— Наколькі, на Вашу думку, апалітычным павінен быць паэт?**

— Я сябе не лічу апалітычнай асобай, хаця не аднойчы гаварыў, што я не дзяржаўны чалавек, а прыватны. І для мяне мой прыватны спакой даражэй за ўсё на свеце. Але па сённяшніх часах статус беларускага літаратара — палітычны статус. Нават калі літаратар не прамаўляе ніякіх лозунгаў і не знаходзіцца на барыкадах. Атрымоўваецца, што пры ўсёй маёй прыватнасці я — палітычная асоба. Бо я — беларускі паэт. І я маральна не магу быць разам з тымі, хто ганьбіць Беларусь, яе культуру, мову.

**— Але ж прыватнае ў нашай дзяржаве не вельмі шануецца... Як улады ацэньваюць вашую творчасць?**

— Яны проста не чытаюць маіх твораў. У гэтым сэнсе ў нас цудоўныя адносіны.

**— Вы лічыце сябе чалавекам беларускага шоу-бізнесу?**

— Не, туды не ўваходжу. Я не буду ўпэўнены за свой творчы спакой, калі мне за мае творы будуць прапаноўваць вялізныя грошы. Страшна пісаць вершы дзеля грошай. Паміраючы, не хачу з вялікай слязой шкадавання ўспамінаць сябе, таго наіўнага рамантыка, які калісьці пісаў вершы за так. Бо гэта будзе вельмі цяжкае шкадаванне.

**— Ці падабаецца Вам самому арэол рамантычнага мужчыны, створаны вакол Вашага імя?**

— Цудоўна, калі людзі так чароўна і паэтычна ўмеюць памыляцца... Ну а па-шчырасці, калі рамантызм — сінонім харства, я згодзен. Калі рамантызм — гэта нечаканая тонкая паэзія і чароўная непавага да грошай — таксама. А калі сімвал бездапаможнасці — не.

**— Вы ніколі не баяліся быць не сучасным, не модным?**

— Не. Лічу, што гэта нават мая нейкая своеасаблівая перавага перад астатнімі. Я заўсёды імкнуўся ў гэтай прасторы суіснавання адваяваць свае ўяўленні пра свет, пра жыццё і пра самога сябе. Думаю, у нейкім сэнсе мне гэта ўдалося.

**— З кім з паэтаў-песеннікаў Вы падтрымліваеце сяброўскія адносіны?**

— Мусіць, я не валодаю маштабам сяброўства. Асабліва з мужчынамі. Няма ў маёй душы нейкага намагання, накіраванасці на сяброўства. Для мяне гэта цяжкая праца. Па сваёй натуры я ірацыянальны чалавек. І не магу дастаткова разумна распараджацца сваім часам. Бывае так, што я ні на чым не магу спыніцца. Мабыць, гэта і перашкаджае мне сябраваць. Маёй увагі хапае прыкладна на гадзіну. А пасля мне хочацца знікнуць у лесе спакою.

**— Вы б хацелі пісаць вершы для расійскіх поп-зорак?**

— Калі мяне некаторыя нашыя выканаўцы прасілі напісаць верш на рускай мове, я іх далёка пасылаў. На іншай мове я не магу пісаць. І ўпэўнены, што нашыя артысты могуць дасягнуць нейкіх вяршынь толькі тады, калі будуць спяваць менавіта на беларускай мове. Дарэчы, тэксты вершаў, пакладзеныя на музыку, я нават не друкую ў сваіх зборніках, бо гэта свайго роду заказная творчасць. І таму я не заўважаю ў іх высокага агню і натхнення. Для мяне дорага тое, што пішацца для самога сябе і майго чытача.

**— Вы перачытваеце ўласныя вершы?**

— Не, гэта сумна.

**— Каму і чаму ў нашыя дні, на Вашую думку, трэба давяраць, прымаючы тое ці іншае рашэнне?**

— Першаму эмацыянальнаму штуршку, своеасаблівай цеплыні ў грудзях. Але ні ў якім разе не холаду.

**— Ёсць такое паняцце, як "горкі верш"?**

— Ёсць. Як ёсць абяцанне пацалунку жанчыны, якая ўжо для цябе недасяжная і раптоўна знікае з твайго жыцця назаўсёды.

**— Што Вас натхняе на працу?**

— Разумная старонка той ці іншай кнігі, удалае і нечаканае спатканне з прыемнымі людзьмі і творчы спакой, які мне калі-некалі ўдаецца здабыць для сябе.

**— Якіх аўтараў Вы чытаеце для паднняцця ўласнага духу?**

— Днямі з задавальненнем чытаў апошнюю кніжку Янкі Брыля "Дзе скарб ваш". Яна нечакана ўразіла мяне, і я вырашыў перачытаць некаторыя ранейшыя творы славутага пісьменніка. Дарэчы, прыйшоў да высновы, што лепшыя творы беларускай прозы сучасныя і па сённяшні дзень. Напрыклад, у рамане таго ж Янкі Брыля "Птушкі і гнёзды" ёсць, на мой погляд, дарагая для кожнага сённяшняга беларуса тэма: палонны Алесь Руневіч імкнецца дамоў, у сваю дзяржаву, няхай і разбураную. Беларускае разбуранае гняздо трэба аднаўляць і зараз. І матэрыяльна, і творча.

**— У якія часы сутак Вам лепш працуецца?**

— Мне патрэбна святло і сонца. Таму — прыкладна з дванаццаці да чатырох гадзін дня.

**— Што Вы больш за ўсё цэніце ў людзях?**

— Цярплівасць.

**— Якую ролю ў вашым жыцці адыгрывае матэрыяльны дабрабыт?**

— Зразумела, мне патрэбна ў месяц пэўная колькасць беларускіх рублёў, каб кухонны стол маёй сям'і быў забяспечаны. Ну і каб заставалася на мае выпадковыя вандроўкі ў кафэ.

**— Колькі грошай Вы можаце патраціць на каханую жанчыну за адзін дзень?**

— Усе, што ёсць. Нават калі на наступны дзень не будзе за што жыць.

**— Ці памятаеце Вы свой першы верш, які прысвяцілі сваёй любай дзяўчыне?**

— На вялікае шчасце, мой першы верш быў прысвечаны подзвігу беларускіх партызан...

**— Няўжо Вы заўсёды прысвячалі вершы толькі партызанам?**

— Ну чаму...

*Ласкаваю будзь, як раней была.*
*Нікому, нікому не дайся...*
*Да мужа ідзі, як заўсёды ішла,*
*Але да мяне вяртайся...*

**— Леанід Васільевіч, як часта Вам даводзілася ў жыцці, кажучы па-руску, "изображать радость", калі на самой справе было сумна?**

— Часта. Дарэчы, я лічу, што гэта вельмі станоўчая якасць. І цудоўна, калі чалавек ёй валодае. Радасць трэба таленавіта... іграць. Іншым людзям шкоды ад гэтага не будзе. Наадварот.

Мне ў свае 40 гадоў здаецца, што я магу таленавіта іграць радасць. Але, на мой погляд, жыццё нельга блытаць з літаратурай. І свой літаратурны сум не трэба выпускаць на вуліцу.

**— Сорак — гэта ўжо нейкія вынікі, набыткі...**

— Гэты ўзрост мне дарагі тым, што я ўжо дастаткова ўтаймаваў свае комплексы, якіх у мяне было шмат. Нейкія два, самыя балючыя і самыя невыкараняльныя, канешне, засталіся. І калі ўважліва чытаць мае кніжкі, іх можна выявіць.

**— Вас ніколі не ахопліваў адчай, што мастацкі радок, наколькі б ён ні быў моцным, фактычна падае ў пясок і не знаходзіць падрыхтаванай глебы?**

— Я нават не паспяваю забяспечыць сваёй увагай усе прапановы сваіх чытачоў. Выходзіць, "глеба" ўсё ж падрыхтаваная.

**— Кажуць, што "паэзія будзе жыць, пакуль на свеце застанецца хоць адна жанчына." Вы з гэтым згодны?**

— Я б удакладніў: "Паэзія застанецца да таго імгнення, пакуль прыгожая жанчына будзе цалаваць паэта..." Ну а калі жанчыне пераходзіць дарогу чорны голуб, яна, згодна з маім патрабаваннем, абавязкова павінна пацалаваць паэта...

Из досье Министерства статистики и анализа

## Начисленная среднемесячная заработная плата и ее соотношение с прожиточным минимумом по отраслям экономики в январе – мае 1997 года

| | Среднемесячная заработная плата, тыс. руб. | | В % к соответствующему периоду прошлого года | | Среднемесячная заработная плата в мае 1997 г., в % к прожиточному минимуму[1] |
|---|---|---|---|---|---|
| | январь — май | май | январь — май | май | |
| Рабочие, служащие и колхозники | 1762,4 | 2003,4 | 168,3 | 176,9 | 195,2 |
| в том числе рабочие и служащие | 1900,2 | 2158,0 | 169,3 | 178,0 | 210,3 |
| промышленность | 2138,9 | 2399,1 | 179,9 | 186,2 | 233,8 |
| сельское хозяйство | 939,6 | 1136,5 | 153,9 | 161,3 | 110,7 |
| из него: | | | | | |
| колхозы | 835,4 | 1013,8 | 150,8 | 158,8 | 98,8 |
| совхозы | 1087,3 | 1333,4 | 156,0 | 164,9 | 129,9 |
| лесное хозяйство | 1554,9 | 1809,1 | 159,4 | 190,3 | 176,3 |
| транспорт | 2003,5 | 2320,6 | 151,3 | 163,9 | 226,1 |
| из него: | | | | | |
| железнодорожный | 2063,9 | 2535,2 | 136,2 | 159,3 | 247,0 |
| автомобильный | 1805,0 | 2013,0 | 164,2 | 169,0 | 196,1 |
| воздушный | 2675,3 | 2786,2 | 148,4 | 151,8 | 271,5 |
| связь | 1849,7 | 2077,0 | 160,7 | 169,0 | 202,4 |
| строительство | 2114,9 | 2467,6 | 172,9 | 181,3 | 240,4 |
| торговля и общественное питание | 1582,9 | 1799,4 | 173,3 | 181,0 | 175,3 |
| материально-техническое снабжение и сбыт | 2336,9 | 2626,7 | 175,8 | 184,9 | 255,9 |
| жилищно-коммунальное хозяйство | 1774,2 | 1903,6 | 146,5 | 150,2 | 185,5 |
| здравоохранение | 1668,2 | 1895,3 | 164,5 | 175,3 | 184,7 |
| физкультура и спорт | 1687,6 | 1876,9 | 165,8 | 174,2 | 182,9 |
| социальное обеспечение | 1090,6 | 1195,5 | 176,9 | 187,2 | 116,5 |
| образование | 1573,2 | 1747,0 | 170,1 | 179,5 | 170,2 |
| культура | 1391,6 | 1564,6 | 165,0 | 175,2 | 152,5 |
| искусство | 1335,6 | 1486,0 | 172,7 | 189,6 | 144,8 |
| наука и научное обслуживание | 2028,1 | 2273,6 | 169,9 | 187,3 | 221,5 |
| банки | 3404,0 | 3860,3 | 150,9 | 167,7 | 376,1 |
| управление | 2441,4 | 2984,6 | 163,1 | 184,1 | 290,8 |
| в том числе: | | | | | |
| аппарат органов государственного управления | 2367,9 | 2906,8 | 162,1 | 184,8 | 283,2 |
| судебные и юридические учреждения | 2823,1 | 3219,9 | 168,9 | 164,9 | 313,7 |
| аппарат органов хозяйственного управления | 2861,3 | 3789,6 | 169,4 | 219,3 | 369,2 |

[1] Прожиточный минимум определен в размере 60% от минимального потребительского бюджета и, по расчетам Минтруда Республики Беларусь, в мае 1997 года составил 1026,3 тысячи рублей.

**От редакции.** *Когда мы публикуем данные официальной статистики, часто раздаются телефонные звонки с возмущением: "И вы верите этим цифрам?" Редакция не может проверить все сведения Министерства статистики и анализа Республики Беларусь, да в наши функции это и не входит. А что касается цифр, то, во-первых, это усредненные по стране, а во-вторых, даже на одном предприятии люди зарабатывают по-разному. Словом, к статистике нужно относиться дифференцированно, с определенной поправкой. Словом, думайте...*

Асабісты погляд

# "Тутэйшыя" на радыёхвалях

Здаецца, мы ўжо сталі прывыкаць да дзіўнага па сваёй няроўнасці моўнага "раздвaення" на беларускім радыё і тэлебачанні. Уключыш раніцай рэпрадуктар ці прыёмнік — дыктары і рэпарцёры з месцаў гэтак бадзёра, узнёсла пачынаюць перадаваць апошнія навіны на беларускай мове. А інакш у незалежнай дзяржаве і не павінна быць! Але вось мікрафоны яны перадаюць сваім суразмоўцам — і "нашынскага" моўнага духу як і не было. Міністры, усё атачэнне пры прэзідэнце, кіраўнікі прадпрыемстваў, старшыні калгасаў, дырэктары большасці школ, інжынерна-тэхнічны персанал заводаў і фабрык — усе, як правіла, адказваюць на пытанні рэпарцёраў на расійскай мове альбо "трасянцы", што найбольш характэрна для кіраўнікоў вёскі. Тое самае чуеш і на тэлебачанні. Зрэдку павее нашай роднай гаворкай, калі перад мікрафонам ці тэлекамерай выступаюць работнікі культуры — артысты, пісьменнікі, кіраўнікі самадзейных творчых калектываў. Але калі ацаніць іх высілкі па вялікаму рахунку, яны гучаць, як голас адзінокага ў пустыні. Што здзіўляе: ніхто з тых радыёсуразмоўцаў, што грэбуюць матчынай мовай, не просіць у слухачоў і тэлегледачоў прабачэння за тое, што не ўмее, не можа размаўляць з карэспандэнтамі па-беларуску, на роўных. Але, маўляў, паверце — з цягам часу падвучуся. Дзе там! Складваецца ўражанне, быццам усе яны вярнуліся ва ўчарашні дзень — у "единый, могучий Советский Союз" з адзінай мовай зносін — расійскай. Так і не збылася мара пісьменніка Івана Шамякіна аб тым, каб было ўзаконена правіла, па якому чыноўнік пры паступленні на службу ў абавязковым парадку здае ўступныя экзамены на дзвюх мовах — беларускай і расійскай. А па-мойму, пасля сумнавядомага рэферэндуму 1995 года мова дзядоў і прадзедаў — мілагучная, духмяная, святлістая — стала сёння гэткай "таполяй бязлістай", як трапна заўважыў у сваім вершы адзін наш вядомы паэт. Быццам афіцыйна яна і ёсць — і яе няма, калі агледзішся навокал, прыслухаешся да голасу вуліцы, двара, школы. Нават у навуковых установах прэстыж роднай мовы нярэдка ігнаруецца людзьмі са званнямі. Нядаўна ў інтэрв'ю рэспубліканскаму радыё чыноўнік з кіраўніцкага апарату Белдзяржуніверсітэта, адказваючы на пытанні па праблемах сёлетняга набору студэнтаў, размаўляў толькі на расійскай мове, хоць пытанні яму задаваліся па-беларуску. Ну як? І гэта ў галоўнай "кузні" нацыянальных кадраў! Дык гадоў гэтак пятнаццаць назад, у "застойныя" часы, журналіст настаяў бы, каб той апаратчык з БДУ не ступаў у "чужыя сляды", не дэманстраваў на ўсю краіну сваё манкурцтва. А сёння — усё можна: па Канстытуцыі ў нас — двухмоўе, мову продкаў можна "походя" і чаравікам падфутболіць — ніхто цябе дубінкай міліцэйскай за гэта не агрэе.

І ўжо а палове восьмай гадзіны раніцы, затым некалькі разоў за дзень на радыё мінут па дзесяць перадаюць рэкламу выключна на расійскай мове, быццам і ніхто па-беларуску не зразумее, што такое "Технобанк продает акции по цене...". Нас, беларусаў, у краіне звыш 80 працэнтаў, а мы вось так усё часцей і часцей здаём свае моўныя традыцыі на радасць манкуртаў розных масцяў і прарасійскіх шавіністаў. Падобнага — перакананы — нідзе ў свеце, нават у джунглях Амазоніі, не сустрэнеш: і тут мы наперадзе планеты ўсёй!

Крыўдна і балюча. Яшчэ і ад таго, што з усёй даволі шматлікай кагорты нашых пісьменнікаў толькі адзінкі па-байцоўску выступаюць на старонках незалежных газет у абарону годнасці, прыярытэту роднай мовы.

**Міхась КУТНЯВЕЦКІ.**
**г.Слуцк.**

Судьбы

# "Соловки" на Лосиковом хуторе

В деревне Подлесье Ивана Николаевича и его жену Суклету Васильевну Колешко сейчас помнят разве что одинокие, доживающие век старики да дальние родственники. Из четверых их детей живы только две дочери — Ольга, минчанка, да Елена, жительница города Старые Дороги, обе пенсионерки. Они-то и раскрыли мне полные драматизма подробности судьбы их семьи, зачисленной, как и сотни подобных на Слутчине, в списки "кулацко-зажиточных" и подвергшихся репрессиям в начале 30-х годов.

Иван Николаевич вел крестьянское хозяйство с любовью и старанием. Держал пару лошадей, две коровы, свиней, имел необходимый сельхозинвентарь. Наемной силой не пользовался — тяжелый воз забот тянули всей семьей. А в ней было восемь душ: Иван Николаевич с женой, четверо малых детишек да его старики-родители, которые также принимали участие в сельхозработах. Дети, кто доставал головой до стола, пасли скот, ухаживали за младшими братьями и сестрами. Но это обстоятельство при раскулачивании, судя по всему, никого из местной власти не интересовало. Учитывали лишь количество голов скота, площадь земельного надела, полученного, между прочим, при советской власти. По "классовому" принципу и ориентиру выходило, что Колешкам нет места в деревне.

За невыполнение непосильного и неоднократно доводимого властями "твердого" задания Ивана Николаевича в 1932 году осудили и отправили на строительство канала Москва—Волга. Жене сказали: коров не доить, то, что посеяно в поле, не жать и не копать — дескать, все это уже колхозное. Позже Суклету Васильевну вызвали в сельсовет и предупредили, чтобы в семидневный срок была готова к высылке на Север — с детьми, свекром и свекровью. Наревелась женщина, идя домой, стала сушить на дорогу сухари, штопать детям одежонку. Но высылку, что тогда редко случалось, отменили. Может, из района дали команду, может, детишек, стариков пожалели — никто не знает. Но из хаты выселили — за околицу деревни, на Лосиков хутор. Там жил один из того сельского актива, что проводил раскулачивание. Приглянулась ему хата Колешков — с сенями, дощатым полом, с надворными добротными постройками. У самого на том хуторе хата была с земляным полом. Не потому, что слыл бедняком — скорее лодырем, учуявшим в колхозе возможность трудиться налегке, а жить сносно. Вселился он в хату Колешко, а им отдал свою. Через несколько дней туда подселили еще одну семью раскулаченных — Ксению Лемеш с тремя малыми детьми. Ее мужа тоже выслали по "твердому" заданию. А позже в тесную хатенку пришла незамужняя девица Надежда Василевская. Она сиротой росла, жила с бабушкой. А когда та умерла, власти лучшего места для Нади не нашли, чем Лосиков хутор. На каких-то двадцати квадратных метрах жилплощади мучилось двенадцать человек! Спали на трехъярусных нарах, сооруженных подлескими мужчинами для несчастных выселенцев. Суклету Васильевну, хотя она и подала заявление, в колхоз не принимали. Но в сезон полевых работ разрешали выходить в бригаду, за что для детишек давали литр молока в день. Это была вся плата за нелегкий ручной труд. Один ребенок Суклеты Васильевны вскоре умер, но и троих вместе с родителями мужа прокормить было нелегко, имея при хате каких-то пять соток земли. Кое-кто из сердобольных сельчан тайком, когда стемнеет, приносил то пару яиц, то кошелку яблок. Собирала щавель, перемешивала с мукой и пекла преснаки. Дети ходили худенькие, как травиночки, хлеба не видели месяцами.

Однажды в ту хатенку подселили заезжего кузнеца, мужчину пожилого возраста. Попробовал тот Суклетиных преснаков и через два дня сбежал из колхоза.

Через год муж Ксении Лемеш, соседки по несчастью, возвратился из высылки, забрал жену с детьми и вселился в свою пустующую хату, благо ее не успели снести.

По воспоминаниям старшей дочери Суклеты Васильевны — Ольги, кандидата биологических наук, минчанки, право голоса ее маме было возвращено лишь в 1937 году, тогда же ей разрешили и вступить в колхоз. Отец возвратился со строительства канала раньше — в 35-м, ему тогда шел пятьдесят третий год. Здоровье в ссылке, на каторжных работах, подорвал основательно. Устроился сторожем на одном из местных предприятий. Там же его летом 37-го года и забрал ночью "черный ворон". Решением "тройки" был сослан в Сибирь. По письмам, которые изредка приходили от него, жена знала, что работает на лесоповале в Томской области. Позже мужа перевели в город Канимадан Таджикской ССР, где он и погиб при невыясненных обстоятельствах в 1945 году. Реабилитирован посмертно в 1961 году, что и было засвидетельствовано справкой Верховного суда БССР. За высылку в 1932 году его так и не реабилитировали.

Тот арест Ивана Николаевича в 1937 году не обошел стороной и жену. Однажды ночью на Лосиков хутор приехали сотрудники Слуцкого НКВД. Сделали в хате обыск, перепороли длинными железными прутьями соломенную крышу, земляной пол, огород — искали какую-то переписку мужа с заграницей. Тогда модным было пришивать всем узникам НКД обвинение в связях с польской, немецкой, японской разведками. Но так ничего и не нашли. От них узнала, что муж сидит в Слуцкой тюрьме.

Во время войны, на шестой или седьмой день после того, как немцы заняли Слуцк, зашел как-то к Колешкам тот "активист", что вселился в их хату. И говорит с испугом Суклете Васильевне: "Ты, Васильевна, хотя не ходи в волость жаловаться на меня за то, что занял твою хату". А она отвечает, что неспособна на донос, Бог, мол, тебе судья. Он ни в какую: "Все, Васильевна, освобождаю твою хату, можешь переходить". Она так и сделала, с сыном и дочерьми три дня очищали хату от клопов и грязи. Но это была уже своя хата! В ней она и состарилась.

Не осталось теперь и следа от Лосикового хутора, ставшего в годы "великого перелома" этакими "Соловками" местного значения для двенадцати несчастных сельчан, жертв беззакония и произвола. Умерли Ксения Лемеш и Суклета Колешко, разлетелись по белу свету их дети, внуки. Для них слова "диктатура", "произвол" — не абстрактные понятия, а боль и горечь от воспоминаний всего пережитого их близкими и родными.

**Михаил ТЫЧИНА,**
г.Слуцк.

